Аляксей Тысін
Мікола Яцкоў

# ТВАЕ ДАЛОНІ

Песні





**Аляксей Пысін**
**Мікола Яцкоў**

# Твае далоні

*Песні*






**Брылі 2010**



**Аляксей Васільевіч Пысін** нарадзіўся 22 сакавіка 1920 г. у вёсцы Высокі Борак Краснапольскага раёна Магілеўскай вобласці ў сялянскай сям'і. Першы верш надрукаваў у 1938 г. у газеце “Чырвоная змена”. У тым жа годзе паступіў у Камуністычны інстытут журналістыкі імя С.М.Кірава ў Мінску. З другога курса быў накіраваны на працу ў рэдакцыю Бельскай раённай газеты на Беласточчыну. У 1941-1945 гг. - у Савецкай Арміі, удзельнічаў у баях на Заходнім, Калінінскім, Ленінградскім, 1-м і 2-м Прыбалтыйскіх франтах. Быў двойчы паранены. З 1946 г. працаваў у раённым друку, у абласной газеце «Магілёўская праўда». Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы пры СП СССР у Маскве (1958). У 1974-1981 гг. - сакратар Магілеўскага абласнога аддзялення СП БССР. Сябра СП СССР з 1950 г.

Узнагароджаны медалямі. Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1968) за кнігу вершаў “Твае далоні”.

Памёр 27 жніўня 1981 г.



**Мікалай Адамавіч Яцкоў** нарадзіўся 22 мая 1959 г. ў Магілёве. Скончыў Магілёўскае культасветвучылішча імя Н.К.Крупскай, а потым Мінскі інстытут культуры. Служыў у войску. З 1981 года працуе дырэктарам Брылёўскага сельскага Дома культуры Магілёўскага раёна. Член Саюза беларускіх пісьменнікаў. Актыўна выступае як кампазітар-песеннік. Напісаў каля 1000 песен на вершы беларускіх паэтаў.

Аўтар песенных зборнікаў "Гронка бэзу" (на вершы Тамаша Ляшонка), "Знічка" (на вершы Івана Карэнды) і інш.



2 *Аляксей Пысін*
*Мікола Яцкоў*

# Пяць патронаў

Словы Аляксея Пысіна
Музыка Міколы Яцкова

Am Dm
Пяць па-тро-наў у а-бой-ме, пяць па-тро-наў, па-ды-

E7 Gm A7 Dm G
-ма-ем-ся у бой мы ў по-лі роў-ным, у па-тро-не кож-ным ку-ля дзе-вяць

C Dm E7 Am F
гра-маў, не ча-кай, ма-я ма-ту-ля, не ча-кай, ма-я ма-ту-ля, не ча-

Dm E7 F A7 Dm E7 Am
-кай, ма-я ма-ту-ля, тэ-ле-гра-мы. Ні з сан-//

Coda Am Dm
цэ-лы ме-сяц бу-дзеш ве-рыць, што жы-ву-я, ска-жаш

Am E7 F A7 Dm E7 Am
яб-лы-ням і вер-бам: сын ва-ю-е.

Аляксей Пысін
Мікола Яцкоў



**Пяць патронаў у абойме,
Пяць патронаў.
Падымаемся у бой мы
Ў полі роўным.**

**У патроне кожным – куля
Дзевяць грамаў.
Не чакай мая, матуля,
Не чакай мая, матуля,
Не чакай, мая матуля, тэлеграмы.**

**Ні з санбата палявога,
Ні з пагоста
Ходзіць доўга (бо дарога!)
Наша пошта.**

**Цэлы месяц будзе везці
Праз краіну
Спавяшчэнне у канверце.
Спавяшчэнне у канверце,
Спавяшчэнне у канверце, быццам міну.**

**Цэлы месяц будзеш верыць,
Што жыву я,
Скажаш яблыням і вербам:
“Сын ваюе!..”**

Аляксей Пысін
Мікола Яцкоў

# Паязды

Словы Аляксея Пысіна
Музыка Міколы Яцкова

Tempo di valse

Гул вак- за-лаў у шкля- ным бла- кі- це, бес-ка-неч-насць
рэ-ек па-зна-ю, па-яз-ды нач-ны- я, па- ка-
-жы- це стан-цы- ю ма-лень-ку- ю сва- ю. аж да бе-лых
зор ча-гось ча- ка- ю, аж да бе-лых зор ка-гось ма- ю,
пад шча- кой, зда- ец-ца, ад-чу- ва- а- ю стан-цы-
-ю ма- лень- ку- ю ма- ю.

*Аляксей Пысін*
*Мікола Яцкоў*



**Гул вакзалаў у шкляным блакіце,**
**Бесканечнасць рэек пазнаю.**
**Паязды начныя, пакажыце**
**Станцыю маленькую маю.**

**І мяне бярозавай вясною**
**Падхапіла з сцежкай карусель.**
**Тысяча зямель перада мною**
**І за мною тысяча зямель.**

**ПРЫПЕЎ: Аж да белых зор чагось чакаю,**
**Аж да белых зор кагось малю...**
**Пад шчакой, здаецца, адчуваю**
**Станцыю маленькую маю.**

**Разумею са сваёй аглядкі**
**На дажджы, на дрэвы пад дажджом:**
**Шмат гадоў забралі перасадкі**
**З нейкім непатрэбным багажом.**

**ПРЫПЕЎ.**

**Зноў бы мне туды, дзе восень паліць**
**Успамінаў жоўты лістапад.**
**Грэюцца ў тваіх кішэнях, памяць,**
**Дзве далоні, што глядзяць назад.**

**ПРЫПЕЎ.**

*Аляксей Пысін*
*Мікола Яцкоў*

# ТВАЕ ДАЛОНІ

Словы Аляксея Пысіна
Музыка Міколы Яцкова

Ду- бы на поз- ні дол ссы-па-юць ліс- це, і ў
кож-на-га зям- ны ка-рот- кі ве - ек, ў мой ліс-та-пад ня-
-шум-ны да-кра- ні-і - ся ма- іх па-век, ма- іх па-век. На
схі-ле дня свят- ла я-шчэ да- во- лі, віль- гот-ны цень кла-дзе ду-боў сям'-
-я - - - о як па-трэб-ны мне тва-е да- ло-ні, лю-боў ма-
- я.

**Дубы на позні дол ссыпаюць лісце,**
**І ў кожнага зямны кароткі век.**
**Ў мой лістапад няшумны дакраніся**
**Маіх павек, маіх павек.**

**ПРЫПЕЎ: На схіле дня святла яшчэ даволі,**
**Вільготны цень кладзе дубоў сям'я.**
**О, як патрэбны мне твае далоні,**
**Любоў мая.**

**Калі стамлюся некалі праз меру,**
**Адчуць бы мне падтрымку рук тваіх;**
**І я ў прыліў магутных сіл паверу,**
**Бо мы ўдваіх, бо мы ўдваіх.**

**ПРЫПЕЎ.**

**Прыкмеціш, што ўскіпаю недарэчы**
**І слова крыўднае сказаць хачу, --**
**Ты апусці далоні мне на плечы,**
**І я змаўчу, і я змаўчу.**

**ПРЫПЕЎ: На схіле дня святла яшчэ даволі,**
**Вільготны цень кладзе дубоў сям'я.**
**О, як патрэбны мне твае далоні,**
**Любоў мая.**

**І я адчую, ўбачу, невідушчы,**
**Далонямі тваімі ўбачу я**
**Ў палёце ластаўку, рабіну ў пушчы,**
**Любоў мая.**

*Аляксей Пысін*
*Мікола Яцкоў*

# Спіць зямля...

Словы Аляксея Пысіна
Музыка Міколы Яцкова

Am E7 Am F G C
Спіць зям- ля, за- сну- лі ў по- лі це- ні змро- ку і свят- ла.
F A7 Dm Am Dm Am E7 F
Не бы- лі, ві- даць, ні- ко- лі вы ля гэ- та- га ся- ла,
Dm E7 Am
вы ля гэ- та- га ся - ла.

**Спіць зямля. Заснулі ў полі**
**Цені змроку і святла.**
**Не былі, відаць, ніколі**
**Вы ля гэтага сяла,**
**Вы ля гэтага сяла.**

**Хтось праехаў, хтось прамчаўся,**
**Бачны дрэвам і платам.**
**Хто сышоў і хто пачаўся, --**
**Невядома мне і вам,**
**Невядома мне і вам.**

**Не трывожуся бязмерна,**
**Што сустрэнуся з зямлёй.**
**Возьме нас зямля і верне**
**Тым, што сёння сніцца ёй,**
**Тым, што сёння сніцца ёй.**

# Змест





На правах рукапісу

*Літаратурна-музычнае выданне*

Пысін Аляксей Васільевіч
Яцкоў Мікалай Адамавіч

**ТВАЕ ДАЛОНІ**
*Песні*

Рэдактар - А.М.Яцкова
Нотаграфія - М.А.Яцкоў
Фармат 14,85х21. Гарнітура Georgia.
Папера афсетная. Друк Samsung SCX-4200 Series
Выдавец і паліграфічнае выкананне




*№ 47*
*21. 03. 2010 г.*
213107 в.Брылі Магілёўскага раёна, Беларусь
bryli@mail.ru

